*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 594 Кастрычнік, 2012 г.
Год выданьня 63

## Шаноўныя чытачы!

Прыемна ізноў сустрэцца з вамі на старонках нашай газэты. Гэты кастрычніцкі нумар не такі шматколерны і вясёлы, якім быў папярэдні. Але, тым ня менш, у ім вы знойдзеце шмат інфармацыі пра падзеі на Бацькаўшчыне і беларускае грамадзкае жыцьцё ў Амэрыцы. Мы пастараліся зьвярнуць вашую ўвагу на вынікі верасьнёўскіх парлямэнцкіх выбараў у Беларусі, якія сталіся чарговым злачынствам рэжыму, бо фактычна не былі сапраўднымі выбарамі і не сфармавалі новы парлямэнт адпаведна волі беларускага народу, у выніку гэты вышэйшы орган дзяржаўнай улады і далей будзе заставацца незаконна абраным прыслужнікам Лукашэнкі.

У Менску 28 кастрычніка апазыцыйная сілы адзначылі Дзяды шэсьцем на Курапаты. Акцыя сталася адметнай падзеяю і паказала, што ў беларускім грамадзтве ёсьць людзі, якія не баяцца выйсьці на вуліцу. На чале калёны ішоў Сяргей Каваленка, які 280 дзён правёў у турме, але ня быў зломлены пакутамі і зьдзекамі і, як толькі выйшаў на волю, актыўна ўключыўся ў рух супраціву рэжыму. Ён таксама выступіў у Варшаве, дзе распавёў пра тое, як ставяцца да палітвязьняў у беларускіх турмах.

Тэмаю выпуску ёсьць і прэзыдэнцкая выбарчая кампанія ў Амэрыцы. Сёлета яна была асабліва востраю, нашы суродзічы ня толькі назіралі за падзеямі, але і непасрэдна абіралі новага прэзыдэнта. У беларускай грамадзе не было адзінства адносна кандыдатаў, беларусы амаль пароўну падтрымлівалі і дэмакратаў, і рэспубліканцаў. Сёлета і БАЗА праз амэрыканскія выбары актыўна далучылася да палітычнай тэмы, але адносна беларускай сытуацыі, і арганізавала дэбаты на гэтую тэму.

Спадзяемся, што вас пацешаць зьвесткі пра наш удзел у фестывалі Атлянтык-Антык, пра іншыя драбнейшыя падзеі, якія сьведчаць пра посьпехі нашых суродзічаў. Таксама віншуем тых нашых сяброў, хто меў свае сьвяты, ушаноўваем памяць адышоўшых. Нагадваем нашым чытачам пра патрэбу фінансавага забясьпячэньня нашайвашай газэты і просім дасылаць хоць і сьціплыя сродкі на яе ўтрыманьне. І вядома, дасылайце свае інфармацыі ў друк.

*Рэдакцыя*

# Вынікі парлямэнцкіх выбараў у Беларусі сфальшаваны

*З 18 па 23 верасьня антыбеларускі рэжым дэманстраваў імітацыю выбараў у так званы парлямэнт. Беларускія выбаршчыкі, дзе сьведама, дзе стыхійна, байкатавалі гэтыя выбары. У выніку яны не адбыліся. Па ўсёй Беларусі прыняла ўдзел у галасаваньні ў сярэднім толькі адна трэць выбаршчыкаў ад зарэгістраваных у сьпісах. На ўсіх участках прагаласавала менша палову выбаршчыкаў. Байкот выкліканы недаверам людзей да фальшывых выбараў і ўсьведамленьнем, што ад галасаваньня нічога не залежыць — вынікі робяцца начальствам і рыхтуюцца зараней.*

*Факт сфальшаваньня выбараў адзначылі прадстаўнікі асноўных апазыцыйных сілаў. Падаем ніжэй адмысловы зварот з гэтай нагоды да беларускага народу, прыняты КХП-БНФ.*

## БАЙКОТ АНТЫБЕЛАРУСКАМУ РЭЖЫМУ

18-23 верасьня беларусы збайкатавалі фальшывыя выбары ў «палатку» рэжыму. Фальшывыя выбары – гэта ёсьць мэханізм незаконнага захопу ўлады. Ад галасаваньня вынік не залежыць. Людзі гэта разумеюць. Больш за 70 адсоткаў выбаршчыкаў не пайшлі галасаваць, і выбары не адбыліся. Прытым больш за палову тых, што галасавалі, рэжым прымусіў прагаласаваць пад страхам, скарыстаўшы залежнасьць людзей па працы і вучобе.

Такім чынам байкот засьведчыў, што рэжым ня мае падтрымкі ў народзе. А значыць, што ён поўнасьцю пазбаўлены легітымнасьці (гэта значыць выбару і даверу народу).

Калі раней выбаршчыкі, паслухаўшы начальства рэжыму і яго прадажную апазыцыю, хадзілі галасаваць, то рэжым фальшаваў выбары, хаваючыся за плечы людзей (бо людзі галасавалі, а вынікі галасаваньня пісаў рэжым, якія хацеў). Цяпер жа выбаршчыкі галасаваць не прыйшлі, і рэжым, апынуўся ў «пралёце». Ня стала кім маніпуляваць. Але замест таго, каб па закону прызнаць, што выбары не адбыліся, рэжым нахабна аб'явіў людзям аб «усенароднай падтрымцы» і што нібыта прагаласавала 75 адсоткаў выбаршчыкаў.

Вось цяпер усе і ўбачылі, што гэта за камарыльля з Лукашэнкам і Ярмошынай. Ім




плюнь у твар, а яны скажуць – дождж ідзе. Той, хто не галасаваў, ведае, што і сусед яго не галасаваў, і ўвесь ягоны 100-кватэрны дом не галасаваў, а гэтыя – хлусяць у вочы, і чхалі яны на ўвесь народ.

Аднак далей так справа ня пойдзе. Трэба байкатаваць увесь гэты антыбеларускі ілжывы рэжым. Першы крок – ня ўдзельнічаць ні ў якіх рэжымных сьвятах, урачыстасьцях, шэсьцях і публічных мерапрыемствах. Пакіньце рэжымнае начальства разам зь яго гэб'ём і халуямі.

Тым часам сьвяткуйма разам усе нашыя беларускія сьвяты, падзеі, даты і ўрачыстасьці. Любім сваё, падтрымлівайма сваіх.

Не паддавайцеся на русіфікацыю, бо гэта варожая зброя нашага зьнішчэньня. Гаварэце па-беларуску між сабой, у сям'і, паўсюдна. Чытайце беларускія кнігі, часопісы і беларускі друк, адчыняйце ў сабе беларускую праўду, бо рэжым хлусіць па-руску.

Пазбаўляйцеся страху на працы. Стварайце вольныя прафсаюзы, незалежныя ад афіцыйных, патрабуйце ліквідацыі на прадпрыемствах пасады гэбоўскіх «ідэолагаў» і ўсялякага гэбісцкага назіраньня. Вытворчасьць павінна быць вольнай ад гэбісцкай палітыкі.

Не называйце «прэзыдэнтам» узурпатара, які пры дапамозе Масквы, КГБ і псэўдаапазыцыі незаконна захапіў уладу ў Беларусі і 18 гадоў хлусіць, ашуквае, абкрадае і прыніжае Беларускі народ.

Не глядзіце рэжымнае русіфікатарскае тэлебачаньне, дзе хлусяць і зьневажаюць. Альтэрнатывай яму можа стаць Белсат, які вяшчае па-беларуску.

Вучыце дзяцей на беларускай мове, патрабуйце беларускіх клясаў і беларускай школы, беларускіх унівэрсытэтаў і вучэльняў, шыльдаў і надпісаў па-беларуску, не дазваляйце рэжымным хамам зьневажаць нашу беларускую мову, шануйце наш беларускі гонар.

Паважайце і беражыце нашыя нацыянальныя сымвалы: герб «Пагоня» і Бел-Чырвона-Белы Сьцяг.

Падтрымлівайце нашу народную партыю, якая афіцыйна называецца Кансэрватыўна-Хрысьціянская

*Працяг з першай бачыны*

партыя – БНФ, якая стаіць за ўвесь беларускі народ, за стварэньне вольнай дэмакратычнай Беларусі і змагаецца за ліквідацыю антынароднага рэжыму, які ёсьць цяпер у краіне. Адным з крокаў кансалідацыі грамадзтва на барацьбу з антыбеларускай уладай народная партыя прапанавала байкот фальшывых выбараў рэжыму. На працягу больш чым дзесяці гадоў партыя пасьлядоўна рыхтавала байкот галасаваньня і давяла гэтую справу да лагічнага завяршэньня. Стварайце групы падтрымкі народнай партыі. Не давярайце псэўдаапазыцыйнай агентуры, рэжымнай прапагандзе і іхным прадажным СМІ. Кіруйцеся на салідарныя ідэі Беларускага Адраджэньня.

Напярэдзе вольныя народныя выбары без Лукашэнкі, Ярмошынай і без фальсіфікацыйнай сістэмы рэжыму. Да гэтага мы дойдзем. Антыбеларускі акупацыйны рэжым ня здольны супрацьдзейнічаць нацыянальна скансалідаванаму беларускаму народу.

Жыве Беларусь! Слава героям!

*Ініцыятыва «Беларуская Салідарнасьць» народнай партыі КХП-БНФ кіраўнік Зянон Пазьняк 24 кастрычніка 2012 Менск*

# Рада Эўразьвязу падоўжыла візавыя санкцыі

Рада Эўразьвязу падоўжыла візавыя і маёмасныя санкцыі супраць беларускіх уладаў яшчэ на адзін год.

На момант разгляду справы санкцыі дзейнічалі ў дачыненьні да 243 асобаў, у тым ліку Аляксандра Лукашэнкі і ягоных старэйшых сыноў, і 32 кампаній, якія належаць набліжаным да яго беларускім алігархам.

У адносінах з афіцыйным Менскам Эўразьвяз вырашыў захаваць статус-кво, падоўжыўшы яшчэ на год ранейшыя візавыя і эканамічныя санкцыі, ніяк не аслабіўшы і не ўзмацніўшы іх. Міністры замежных спраў спраў краін Эўразьвязу на супольным пасяджэньні аргумэнтавалі сваё рашэньне тым, што ня ўсе беларускія палітвязьні вызваленыя і ніводзін з вызваленых ня быў рэабілітаваны, а таксама адсутнасьцю паляпшэньня ў пляне павагі да правоў чалавека, законнасьці і дэмакратычных прынцыпаў. Рада Эўразьвязу вырашыла падоўжыць цяперашнія абмежавальныя захады да 31 кастрычніка 2013 году, пакінуўшы магчымасьць іх далейшага перагляду.

Рада Эўразьвязу зьвярнула ўвагу на тое, што мінулыя выбары ў Палату прадстаўнікоў прайшлі на фоне рэпрэсіяў і сталіся для Беларусі яшчэ адной страчанай магчымасьцю правесьці кампанію адпаведна стандартам АБСЭ.

Рада Эўразьвязу назвала пазытыўным сыгналам вызваленьне Сяргея Каваленкі і зноў заклікала ўлады Беларусі вызваліць і рэабілітаваць усіх палітвязьняў, спыніць уціск грамадзянскай супольнасьці, апазыцыі і незалежных СМІ, а таксама дазволіць аднавіць працу офіса АБСЭ ў Менску ды супрацоўнічаць са спэцдакладчыкам ААН па праблеме правоў чалавека ў Беларусі.

*15.10.2012*

# Каваленка, Мігальскі і Пазьняк у Варшаве




«Я дзякую ўсім за моцную падтрымку, пра якую я ведаў нават у турме», — заявіў былы палітвязень Сяргей Каваленка падчас адмысловай прэсавай канфэрэнцыі ў Варшаве. 26 верасьня ён быў вызвалены з турмы, дзе прабыў 280 дзён і некалькі разоў трымаў працяглыя галадоўкі пратэсту супроць зьняволеньня.

У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел таксама старшыня КХП БНФ Зянон Пазьняк ды эўрадэпутат ад Польшчы Марэк Мігальскі.

«Ня трэба дзякаваць мне за падтрымку Сяргея Каваленкі, гэта праца і абавязак палітыка. Лепей запытайцеся, што зрабілі іншыя палітыкі з розных краінаў у справе Беларусі. Як яны могуць зьмірыцца з тым, што Эўразьвяз мяжуе з апошняй клясычнай дыктатурай?», — сказаў Марэк Мігальскі. Зянон Пазьняк патлумачыў прысутным палітычную значнасьць ўчынку Сяргея Каваленкі, які пацярпеў за тое, што вывесіў бел-чырвона-белы сьцяг у публічным мейсцы:

«Герб і беларускі сьцяг, гэта не звычайныя сымбалі для нас, гэта сымбалі свабоды».

Сам Сяргей Каваленка, якога прысутныя польскія журналісты ды беларускія актывісты віталі апладысмэнтамі, расказваў пра зьняволеньне ды сьцяг у цэнтры роднага горада, за які яго і схапілі:

«Калі сьцяг пабачыць адна асоба, то раскажа і даведаюцца яшчэ дзесяць. Калі на яліне сьцяг апынуўся, дык увесь Віцебск ведаў, бо гэта ж самы цэнтар горада»

Канфэрэнцыя прайшла з ініцыятывы Зьвязу на карысьць дэмакратыі ў Беларусі і пры дапамозе тэлеканалу«Белсат».

*Паводле Радыё Свабода 18.10.2012*

## Андрэй Саньнікаў атрымаў прытулак у Вялікабрытаніі

Экс-кандыдат у прэзыдэнты Беларусі, былы палітвязень Андрэй Саньнікаў атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі.

У інтэрвію журналістам Саньнікаў патлумачыў свой намер эміграваць: «Для мяне гэта было нялёгкае рашэньне. Але, паверце, іншага выйсьця не было. Ці зноў цярпець катаваньні і зьдзекі ў турме, ці сядзець „цішэй вады, ніжэй травы". Я быў і застаюся беларускім палітыкам. Буду працягваць даносіць праўду пра маю краіну і дамагацца, каб былі прынятыя канкрэтныя меры дапамогі дэмакратычнай Беларусі. Лічу, што маё рашэньне дапаможа рэальнаму вызваленьню маёй жонкі і сына, якія знаходзяцца ў закладніках у рэжыму Лукашэнкі».

# Брусэльская дэклярацыя беларускай апазыцыі



12 беларускіх палітычных арганізацый прынялі сумесны зварот да Эўразьвязу. Яго падпісалі ў Брусэлі 17 кастрычніка 2012 прадстаўнікі "Эўрапейскай Беларусі", "Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі", Маладога фронту, "Гавары праўду!", Абьяднанай грамадзянскай партыі, Партыі "Справядлівы сьвет", Саюзу "За мадэрнізацыю", Беларускай партыі зялёных, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Грамада", КХП-БНФ, Руху "За свабоду", Партыі свабоды і прагрэсу.

У дакумэнце гаворыцца пра неабходнасьць актывізаваць дзейнасьць інстытутаў Эўразьвязу ў накірунку дэмакратызацыі Беларусі:

"Змагацца за свабоду і дэмакратыю ў нашай краіне было б намнога складаней без падтрымкі і салідарнасьці эўрапейскіх інстытутаў. Мы разумеем, што толькі беларускі народ можа вызначыць дэмакратычную будучыню краіны, але, дзеля таго, каб гэта адбылося як найхутчэй, нам патрэбная ўсебаковая падтрымка з боку краінаў Эўразьвязу і самога Эўрапейскага Зьвязу".

# Дэбаты пра будучыню Беларусі ў Нью-Ёрку

Прэзыдэнцкая выбарчая кампанія ў Амэрыцы, якая вызначылася сёлета асабліва вострай барацьбой паміж кандыдатамі Баракам Абамам і Мітам Ромні і цэнтральнае месца ў якой занялі дэбаты прэтэндэнтаў, навяла амэрыканскіх беларусаў на думку распачаць сэрыю сваіх дэбатаў на актуальную тэму пра будучыню Беларусі. Ініцыятарам выступіла моладзь Бруклінскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Першую заяўку на ўдзел у дэбатах зрабілі сябра Галоўнай управы БАЗА, юрыст па адукацыі Юрась Зянковіч і доктар Зьміцер Шчыгельскі, вядомы тым, што абнародаваў дыягназ пра "мазаічную псіхапатыю" Аляксандра Лукашэнкі. Сп. Зьміцер цяпер жыве ў Нью-Ёрку і працуе на адным з расейскамоўных радыйных каналаў. Абодва актыўна цікавяцца падзеямі на Бацькаўшчыне і маюць розныя падыходы да разьвіцьця падзеяў у Беларусі. Яны пранавалі тэму для дэбатаў аднosна магчымасьці зьмены ўлады ў Беларусі – "Эвалюцыя ці рэвалюцыя?". Сп. Шчыгельскі абгрунтоўваў сваю прыхільнасьць да рэвалюцыйнага шляху пераменаў, а сп. Зянковіч даводзіў перавагі эвалюцыйный зьменаў.

Дэбаты адбываліся 21 кастрычніка ў беларускім грамадзкім цэнтры на Атлянтык Авэню 401. У якасьці мадэратара быў запрошаны прадстаўнік старэйшага пакаленьня беларускай эміграцыі сп. Вячка Станкевіч. Трэба аддаць яму належнае, што са сваёй ролькю сп. Вячка справіўся вельмі пасьпяхова і ягонае ўмелае кіраўніцтва паспрыяла таму, што дэбаты прайшлі ў спакойнай канструктыўнай атмасфэры. Прысутнічала шмат моладзі і старэйшых. Маладыя людзі актыўна задавалі пытаньні ў дыскусіі, з чаго было добра відаць, што яны пастаянна цікавяцца падзеямі на Бацькаўшчыне і маюць свае абгрунтаваныя погляды на сытуацыю ў краіне і яе будучыню.

Пры падвядзеньні вынікаў перамогу атрымаў сп. Шчыгельскі, які на думку прысутных больш аргумэнтавана выказваў свае думкі. Аднак, гэта сьведчыла толькі пра уменьне ўдзельнікаў дэбатаў абгрунтаваць свае перакананьні. Сярод прысутных было нямала і тых, хто падтрымлівае ідэю эвалюцыі. Вольнае абмеркаваньне тэмы яшчэ доўга працягвалася пасьля фармальнага заканчэньня дэбатаў і кожны меў магчымасьць выказацца.

На заканчэньне прысутныя выказалі жаданьне працягваць дыскутаваць на актуальны беларускія тэмы і арганізатары першых дэбатаў, сярод якіх актыўную ролю меў Яўген Іванюк, пацьвердзілі свой намер падрыхтаваць наступны тур і запрасілі ўсіх жадаючых далучыцца да іхнай працы, прапаноўваць тэмы ці свой удзел у такіх дэбатах.

*Ганна Сурмач*

# Каму аддавалі перавагу беларусы ў Амэрыцы пад час сёлетніх прэзыдэнцкіх выбараў?

*Вынікі апытаньня беларусаў ЗША, праведзенага перад выбарамі прадстаўнікамі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.*

На працягу 5 дзён удалося скантактавацца з 114 беларусамі і амэрыканцамі беларускага паходжаньня і даведацца, каго з кандыдатаў яны падтрымліваюць пад час выбараў амэрыканскага прэзыдэнта. Сярод іх 19 асобаў, якія стала жывуць у ЗША і якія вызначыліся, за каго б яны галасавалі, калі б на гэты час мелі амэрыканскае грамадзянства.

Апытаньне праводзілася асноўна па тэлефоне і праз электронную пошту. Актыўны ўдзел узялі 11 чалавек, з іх найбольш грунтоўна выказалі свае меркаваньні Людміла Бакуновіч, Зьміцер Бубен, Ганна Сурмач, Сяргей Раманюк, Юрась Зянковіч. Сярод апытаных былі людзі з цэлай Амэрыкі, ад Нью-Ёрку да Каліфорніі, з добрым прадстаўніцтвам штатаў Нью Джэрзі, Канэктыкуту, Агайа, Мічыгану, Калярада. Наймалодшы ўдзельнік апытаньня мае 19 гадоў, найстарэйшы – 88 гадоў.

Галасы падзяліліся амаль пароўну. За кандыдата ад рэспубліканцаў, былога губернатара штату Масачусэтс Міта Ромні выказаліся - 47%, за дзейнага прэзыдэнта Барака Абаму – 45%. Не вызначыліся – 8%.

Сярод апытаных было 42% ранейшых беларусаў(назавем іх так умоўна), якія даўжэйшы час жывуць у Амэрыцы ці нарадзіліся тут, і 58% пазьнейшых эмігрантаў, якія прыехалі ад пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя.

Сярод ранейшых адчуваецца розьніца ў пакаленьнях. Бацькі і старэйшыя векам далей трымаюцца рэспубліканцаў і хочуць галасаваць за Ромні - такіх 60%, але сярод іх 40 % маюць намер аддаць голас за Абаму. Малодшыя падзяліліся пароўну за кожнага кандыдата.

Пазьнейшая эміграцыя аддае перавагу Абаме – 56 %, за Ромні - 44%.

А якія пытаньні з'яўляюцца асноўнымі пры выбары кандыдата, што найперш бярэцца пад увагу? Тут, відаць, свой уплыў маюць тэлебачаньне і прэса, якія найбольш часу аддаюць унутраным амэрыканскім тэмам. Таму і беларусы таксама аддаюць перавагу ўнутраным праблемам, як асноўным, калі вырашаюць для сябе, каго падтрымаць.

*В. Станкевіч*

# Дзяды-2012 у Беларусі




Пачынаючы ад 30 кастрычніка 1988 году традыцыйны дзень памінаньня памерлых — Дзяды — набыў характар грамадзка-палітычнай падзеі. Штогод у памяць аб ахвярах камуністычных уладаў адбываецца шэсьце на Курапаты.

Сёлета дазволеную ўладамі акцыю арганізоўвала Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя БНФ.

У шэсьці на Курапаты сёлета 28 кастрычніка бралі ўдзел каля 500 чалавек. Яны ня толькі ўшаноўвалі памяць ахвяраў - усталёўвалі крыжы і ўскладалі кветкі, але і выступалі з пратэстам супраць распачатага будаўніцтва ў ахоўнай зоне мэмарыялу «Курапаты» забаўляльнага цэнтру.

На мітынгу выступіў намесьнік старшыні КХП-БНФ Юрась Беленькі.

Ліст ад Зянона Пазьняка зачытаў прэсавы сакратар КХП-БНФ Валеры Буйвал.

У лісьце нагадваецца, што ў наступным годзе спаўняецца 25 гадоў з дня адкрыцьця Курапатаў: «Тады гэтае адкрыцьцё скалыхнула ўсё грамадства. І адсюль, з Курапацкіх расстрэльных ямаў, узьнялася нашая нацыянальная воля: быў створаны Народны фронт, узьняўся сьцяг нацыянальнага адраджэньня, грамадства перамянілася».

Сп. Пазьняк падкрэсьлівае, што цяперашнія ўлады Расеі і кіраўніцтва Беларусі хочуць зьнішчыць памяць пра Курапаты: «Разам з расейскімі ўладамі кіраўніцтва Беларусі будзе паказваць нянавісьць да гэтага трагічнага месца. Яны будуць пракладваць дарогі праз магілкі, будаваць бардэлі і рэстараны ў акопах, рынкі ды казіно — на месцы магілаў. У тым ліку і ў гэтым сьвятым месцы, дзе паводле апошніх падлікаў закапана да 250 тысяч люд-зей».

Зянон Пазьняк заклікаў шанаваць пакутныя магілы продкаў, аберагаць іх ад вандалаў і цемры, памятаць пра генацыд.

*Паводле Радыё Свабода*

# Нарада ў Вільні




У Вільні па ініцыятыве Рады БНР адбылася нарада кіраўнікоў беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў са старшынёй Рада Івонкай Сурвілай.

Мэтай нарады, як паведамлялася на старонцы Рады БНР у facebook, была «выпрацоўка захадаў у справе забесьпячэньня абароны незалежнасьці Беларусі».

У паведамленьні па выніках нарады гаварылася, што «удзельнікі сустрэчы адзначылі небясьпеку палітыкі самаізаляцыі і зьнішчэньня беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, пацьвердзілі, што неабходнай зарукай для забесьпячэньня беларускага нацыянальнага суверэнітэту ёсьць дэмантаж аўтарытарнага рэжыму А. Лукашэнкі». Як першачарговыя мэты былі названыя неадкладнае вызваленьне палітвязьняў і спыненьне палітычных рэпрэсіяў.

У прынятым Мэмарандуме, дзе вызначаныя накірункі сумеснай дзейнасьці, гаворыцца, што «удзельнікі нарады з Беларусі пацьвярджаюць прызнаньне Рады БНР ў яе статутнай ролі не-партыйнага, над-палітычнага органу беларускай дзяржаўнасьці» і «да часу надыходу статутных умоваў складаньня Радай свайго гістарычнага мандату, гэта значыць абраньня дэмакратычнай улады на свабодных выбарах, пры гарантаванай дзяржаўнай незалежнасьці, прадстаўнікі беларускай палітычнай і грамадзянскай супольнасьці прызнаюць Раду БНР рэзэрвовым палітычным дэпазытарыем беларускай незалежнай дзяржаўнай традыцыі. Старшыня і сябры Рады БНР пацьвярджаюць адданасьць Рады мэце спаўненьня свайго статутнага мандату».

Мэмарандум падпісалі (у альфабэтным парадку): Уладзімер Барадач (Аргкамітэт Савету Нацыянальнага Адраджэньня), Вінцук Вячорка (Аргкамітэт «Беларускага Руху)», Аляксандар Дабравольскі (АГП), Мікалай Дземідзенка («Малады Фронт»), Уладзімер Колас (Рада беларускай інтэлігенцыі), Вольга Карач (грамадзянская кампанія «Наш Дом»), Аляксандар Мілінкевіч (Рух «За свабоду»), Станіслаў Шушкевіч (БСДГ), Аляксей Янукевіч (партыя БНФ), ад імя Рады БНР –Івонка Сурвілла. Абвешчана, што Мэмарандум адкрыты да падпіскі.

*Паводле Радыё Свабода*

## Загадкі мінуўшчыны:
# Куды падзеўся цэлы музэй?

*Адам МАЛЬДЗІС*

*Каштоўныя экспанаты збіраліся ў Баранавічах яшчэ ў даваенны час, потым зніклі ў чэрвені 1944 года. Дзе іх шукаць?*

З усіх цяперашніх і былых абласных музеяў, пэўна, самы няпросты і пакручасты лёс - у музея баранавіцкага. Чаму? Па-першае, усе падобныя музейныя асяродкі маюць даўнія гістарычныя традыцыі, узніклі ў гарадах, якія былі адміністрацыйнымі цэнтрамі яшчэ ў часы Вялікага Княства Літоўскага.

Маю тут на ўвазе Бабруйск і Мазыр, Пінск і Полацк. Баранавічы ж узніклі, як кажуць, на голым месцы там, дзе пад канец XIX стагоддзя каля ранейшай невялікай шляхецкай сядзібы скрыжаваліся чыгуначныя шляхі. У такім сэнсе "кар'ера", у тым ліку культурная, гэтага юнага, але буйнога ўжо для Беларусі горада ўнікальная, вартая спецыяльнага вывучэньня.

Па-другое, Баранавіцкі краязнаўчы музей некалькі разоў зачыняўся, потым адраджаўся пад іншай назвай, з іншымі функцыямі і новым кіраўніцтвам. Заснаваны ён быў у кастрычніку 1929 года, па ініцыятыве выкладчыка мясцовай гімназіі Леаніда (ці Леанарда) Турскага, як Баранавіцкі павятовы краязнаўчы музей. У 1940 годзе, калі Баранавічы сталі абласным цэнтрам, гэты па сутнасці школьны асяродак ператварыўся ў Баранавіцкі абласны музей выяўленчага мастацтва. Туды сталі звозіць жывапісныя, графічныя і скульптурныя творы з навакольных маёнткаў і касцёлаў. Перадавалі вынікі сваёй работы і заходнебеларускія мастакі. З публікацый у мясцовай прэсе відаць, што зборы музея былі досыць багатыя. А паколькі Баранавічы засталіся цэнтрам акругі і ў час фашысцкай акупацыі, музей працягваў дзейнічаць у ранейшым выглядзе з восені 41-га да чэрвеня 1944 года. Як я даведаўся ў час апошняй паездкі, дырэктарам установы, якая памяняла толькі шыльдачку і некалькі карцін ды гравюр, заставався той жа Турскі.

У 1942 годзе акупанты дазволілі ўстроіць у музеі нешта падобнае на выставу твораў заходнебеларускіх мастакоў. Звесткі пра тое я знайшоў яшчэ ў 1982 годзе ў Лондане, знаходзячыся там у камандзіроўцы па стыпендыі ЮНЕСКА. Аказалася, што на выставе дэманстраваліся карціны "Кудзельніца" і "Вясковыя дзяўчаты" Сеўрука, "Беларуская дзяўчынка" і "Вясковыя дзяўчаты" Шымановіча, а таксама выразаныя з дрэва фігуры "Святы Ян" майстра з Ішкалдзі (каля 1500 года), "Святыя Пётр і Павел" разьбяра з Медзвядкі" (каля 1600 года) і "Хрыстос з ягняткам" работы жыхара той жа Ішкалдзі (каля 1700 года). З іншых крыніц мне стала вядома, што тады ў музеі знаходзіліся і карціны заходнееўрапейскіх мастакоў, у прыватнасці Сальватарэ Роза і Рубенса, але ў прыведзеным пераліку яны адсутнічалі: можа, ужо былі вывезены ў Германію ці рыхтаваліся да вывазу.

І вось у чэрвені 1944-га ўсё, што знаходзілася тады ў музеі, знікла. У невядомым кірунку. Можа, пры адступленні варожых войскаў было вывезена ў Германію? А можа, пры ўдзеле таго ж Турскага, схавана ў горадзе, а потым, у сувязі з пасляваенным выездам яго ў Польшчу, патаемна туды ж перапраўлена? Карацей, калі аднавілася Баранавіцкая вобласць, то будынак музея пуставаў. Як абласны ён адрадзіўся ў 1946 годзе на базе Слонімскага раённага музея, ацалелага ў вайну дзякуючы старанням яго стваральніка і дырэктара Іосіфа Стаброўскага.

Як вядома, у 1953 годзе Баранавіцкая вобласць была ліквідавана, а яе тэрыторыя падзелена паміж суседнімі. І музей стаў называцца проста краязнаўчым, ён адначасова з'яўляўся і раённым, і гарадскім. З 1960 года ён месціцца ў двухпавярховым будынку па вул. Савецкай, узведзеным на пачатку XX стагоддзя. Фонды даволі багатыя: каля 40 тысяч прадметаў, размешчаных у сямі залах. Сярод іх ёсць і ўнікальныя экспанаты. Дырэктар музея Ірына Станюк паказала мне, напрыклад, слуцкі пояс і касцельны арнат, сшыты са слуцкіх паясоў. Гэтыя каштоўнасці, не ўлічаныя ў мінскіх апісаннях, паступілі ў Баранавічы з суседніх сяленняў у пасляваенны час. Яны сведчаць, што слуцкія паясы, знаходкі якіх сёння запатрабаваныя, можна і трэба шукаць не толькі за граніцай, але і па перыферыйных сховішчах, па раённых музеях, з чым пагадзіліся мінскія даследчыкі на пасяджэнні "круглага стала", які адбыўся неўзабаве пасля майго прабывання ў Баранавічах.

Аднак вернемся ў кабінет Ірыны Станюк. Пасля экскурсіі там адбылася зацікаўленая размова з цяперашнімі і ранейшымі работнікамі музея. З розных бакоў разглядалася пытанне: куды падзеліся каштоўныя экспанаты ў чэрвені 1944 года? Можа хто бачыў, што і калі вывозілася з Баранавіч? Можа, хто пісаў пра гэта з-за рубяжа сваякам ці знаёмым? Тыя ж пытанні задаваліся мясцовым краязнаўцам, якія сабраліся на ўлонні прыроды. Адказы былі аднолькавыя: маўляў. Таму не прыдавалі асаблівага значэння, цяпер паспрабуем пачаць пошукі. Праўда, у час гутарак высветлілася важная акалічнасць: у Польшчы пражывае дачка настаўніка мясцовай гімназіі і дырэктара музея Л. Турскага. У старажылаў ёсць нават яе адрас. Гэта ўжо абнадзейвае.

А, можа, пра баранавіцкія падзеі 1944 года нешта ведаюць старэйшыя чытачы "Беларуса"?

# Прэмія, якая сябе зжыла

Як вядома, сёлета Нобелеўскі камітэт прысудзіў Прэмію міру Эўрапейскаму зьвязу.

Старшыня Нобелеўскага камітэту міру, былы прэм'ер Нарвэгіі, генэральны сакратар Рады Эўропы Торб'ёрн Ягланд патлумачыў, што сёлетняя прэмія прысуджаецца Эўрапейскаму Зьвязу за 60 гадоў намаганьняў дзеля пашырэньня міру, дэмакратыі і правоў чалавека на кантынэнце. Гэты працэс пачаўся з замірэньня Францыі і Нямеччыны ў 1945 годзе, пазьней працягваўся з далучэньнем да ЭЗ Грэцыі, Гішпаніі і Партугаліі, а на пачатку 21 стагодзьдзя — шэрагу краін постсавецкага блёку. Спадар Ягланд заявіў: «Стабілізуючая роля, якую адыгрывае Эўрапейскі Зьвяз, дапамагла ператварыць Эўропу з кантынэнта вайны ў кантынэнт міру».

Са сьцьвярджэньнем сп. Ягланда нельга не пагадзіцца, сапраўды, ужо 70 гадоў у Эўропе пануе мір і ніводная з эўрапейскіх краінаў не спрабавала разьвязаць трэйцюю сусьветную вайну, як гэта сталася ў мінулым стагоддзі. За гэты не такі ўжо доўгі ў гістарычным кантэксце час народы Эўропы і цэлага сьвету пасьпелі залячыць раны і аднавіць страты, якія нанесьлі першая і другая кравапралітныя сусьветныя вайны, што разьвязалі некаторыя краіны, якія сёньня пануюць у Эўразьвязе. Але, памяць пра гэтыя жудасныя войны ніколі не зьнікне і не будзе выкрасьлена з гісторыі чалавецтва. Наша Бацькаўшчына - Беларусь была двойчы зруйнаваная ў гэтых войнах.

Прызнаюся, мне асабіста зрабілася неяк нават млосна, калі я пачула навіну пра Нобеля. Але, мае эмоцыі, магчыма, не перарасьлі б у пратэст, калі б у сьпісе намінантаў на гэтую прэмію не значылася імя вядомага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, якога сёньня лукашэнкаўскі рэжым кінуў за краты за ягоную гуманітарную дзейнасьць. Магчымасьць для расправы над ім дабраахвотна прадставілі беларускім уладам дзьве краіны Эўразьвязу – “добрыя” суседкі Літва і Польшча, а дакладней тыя структуры ў гэтых краінах, якія маюць свае ўзаемавыгадныя кантакты з беларускімі рэжымам і маюць сваё прадстаўніцтв ва ўладных структурах. Але, каб толькі гэта? Як стала высьвятляцца пазьней, з беларускім рэжымам актыўна супрацоўнічалі структуры ў Нямеччыне, Галяндыі, Латвіі і, магчыма, і іншых краінаў. Санкцыі санкцыямі, а выгада даражэй. Як паведаміла польская газэта Rzeczpospolita 18 кастрычніка, Міністэрства замежных справаў



Польшчы ізноў паслала ў Беларусь лісты з інфармацыяй пра фінансавыя сродкі, выдадзеныя каля 30 беларускім апазыцыянэрам, якія бралі ўдзел у Саміце Ўсходняга партнэрства ў Варшаве ў верасьні. Невядома, якія наступствы гэтай “здачы” чакаюць беларускіх апазыцыянераў.

Такім чынам, сваёй ухваленай Нобелеўскім камітэтам “міратворчай” дзейнасьцю некаторыя краіны Эўразьвязу могуць давясьці нашу краіну да грамадзянскай вайны, калі беларускі народ страціць надзею на падтрымку эўрапейскай супольнасьці і сваімі сіламі возьмецца радыкальна вырашаць свой лёс.

А што мы, беларусы? Як рэагавалі на гэтую прэмію? Той – сёй выказаўся крытычна, а бальшыня, у тым ліку і ўсе вядучыя палітычныя сілы прамаўчалі, праглынулі, каб не злаваць Эўразьвяз, які часам падкіне гранты. І нават з-за гэтай памяркоўнасьці жонка самога палітвязьня Алеся Бяляцкага ў інтэрвю выказалася, што прэмія прысуджана справядліва.

Адзін толькі Марэк Мігальскі - эўрадэпутат ад Польшчы паспрабаваў зьмякчыць гэтую незразумелую сытуацыю і выступіў з прапановаю да Эўразьвязу перадаць грашовую частку прэміі на разьвіцьцё грамадзкай супольнасьці ў Беларусі, што будзе спрыяць дэмакратызацыі краіны. Актыўнай падтрымкі гэтай справядлівай прапановы пакуль не назіраецца нават з беларускага боку, а ці пойдзе на гэта Эўразьвяз пакуль невядома. Няма водгукаў.

*Ганна Сурмач*

## *Ад беларусаў замежжа з Мельбурну*

# Абвінавачаньне супроць Аляксандра Лукашэнкі

Аляксандр Лукашэнка праз памылку лёсу захапіў у Беларускай рэспубліцы найвышэйшае становішча – прэзыдэнта гэтай краіны. Ён дасягнуў гэтага паслугоўваючыся рознымі маніпуляцыямі - робячы самавольныя зьмены законаў і нават самой Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У мітусьні палітычнага хаосу Лукашэнка вытварыў і працягвае вытвараць такое, што не паддаецца ніякай лёгіцы.

Лукашэнкаўская гульня з лёсам Беларусі адбываецца на фоне ўсеагульнага нішчэньня беларускага народу, беларускай культуры і беларускай гісторыі. І робіць ён гэта, каб дагадзіць Расеі. Можна з упэўненасьцю сказаць, што расейскі ўрад ёсьць гарантам улады Лукашэнкі . Балюча прыняць гэта да сьведамасьці. У часе Другой сусьветнай вайны беларусы кармілі мільён савецкіх партызанаў. Цяпер Лукашэнка плаціць ім за гэта дубінкамі і турмамі. Унутры яго дрэмле антыбеларуская душа. Перад ягонымі вачыма зіхаціць і прыцягвае ягонае неабмежаванае славалюбства даўняя мара – Крамлёўскі трон. Вось для гэтага ён і скідае з сябе ўсялякі баласт беларускасьці, які можа перашкодзіць яму на шляху да гэтай мэты. Пагром беларускіх дэманстрантаў 19 сьнежня 2010 году – гэта таксама чыстка ад беларускасьці. Гэтую методу паплечнікі Лукашэнкі перанесьлі аж да Іркуцка, каб і там нішчыць годнасьць і гонар беларусаў.

Усім тым, хто спрычыніліся да прыніжэньня беларускай нацыі і працягваюць рабіць гэта і сёньня, беларускі народ і гісторыя ніколі не прабачаць. Няхай памятаюць, што час расплаты надыдзе!

*Беларускі Цэнтральны Камітэт у Мельбурне*
*Старшыня Янка Барысевіч,*
*Заступнік Аляксандр Грыцук*

# Нью-Ёрскі клюб расейскіх паэтаў пратэстуе супраць перасьледу Андрэя Пачобута



21 кастрычніка Клюб выступіў з адпаведнай заяваю, дзе гаворыцца: “Мы, расейскамоўныя літаратары Амэрыкі, выказваем рашучы пратэст супроць перасьледу беларускімі ўладамі журналіста Андрэя Пачобута...

Журналісту пагражае пяць гадоў турмы за шэраг публікацыяў у інтэрнэце. Па ацэнках незалежных экспертаў, артыкулы Пачобута не ўтрымоўваюць прыкметаў зьнявагі, а толькі крытыкуюць палітыку беларускіх уладаў”.

Нью-Ёрскі клюб расейскамоўных паэтаў быў створаны ў 1991 годзе. Старшынём яго зьяўляецца вядомы паэт Барыс Ветраў, які нарадзіўся і жыў у Беларусі і зьведаў на сабе ў савецкія часы ўсе праблемы жыцьця творчай асобы ў таталітарным грамадзтве.

# Айцец Леанід (Акаловіч): "Ідэя самастойнай беларускай праваслаўнай царквы існавала яшчэ з часоў Эўфрасіньні Полацкай..."



*Ужо некалькі месяцаў вядзе Багаслужбы ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Нью-Ёрку новы сьвятар – айцец Леанід. Ён прыехаў зь Беларусі, дзе спраўляе абавязкі сьвятара БАПЦ ва ўмовах перасьледу і розных перашкодаў з боку прарасейскай царквы і ўладаў. Дзеля большага інфармаваньня вернікаў БАПЦ пра асобу і дзейнасьць пратаярэя Леаніда падаем інтэрвію Баўтрамея ГОРБАЧА зь ім, узятае з інтэрнэт-выданьня «Трэці шлях».*

*Айцец Леанід (Акаловіч), мовазнавец, пэдагог, генэоляг, царкоўны (пратаярэй) і грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў Менску ў 1939 годзе. Скончыў школу імя Я. Коласа. Атрымаў вышэйшую адукацыю, закончыўшы беларускае аддзяленьне філялягічнага факультэту БДУ. Больш за год служыў у войску, пасьля скончыў асьпірантуру. У 1967-2005 гадах працаваў у Беларускім дзяржаўным пэдагагічным унівэрсытэце выкладчыкам беларускае мовы. Займаецца дасьледаваньнем беларускай царкоўнай гісторыі, абгрунтаваў наяўнасьць шостага, набажэнскага, стылю беларускай мовы, які дагэтуль афіцыйна не прызнаецца, пасьля чаго сам пачаў адраджаць практыку беларускага набажэнства, стаўшы сьвятаром БАПЦ, перакладаць на беларускую мову малітвы, псалмы, Сьвятое Пісаньне і багаслужбы.*

**Баўтрамей ГОРБАЧ («Трэці шлях»):** - Давайце пачнем зь невялічкага гістарычнага экскурсу. Распавядзіце, калі ласка, пра гісторыю Беларускай Аўтакефаліі: як яна зьявілася і як дажыла да нашых дзён?

**Айцец Леанід:** - Гісторыю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы можна разглядаць па-рознаму, гледзячы адкуль пачынаць. Пасьля Берасьцейскай царкоўнай вуніі праваслаўе ня зьнікла зь Беларусі, але заставалася, хай і ў малой колькасьці. Працэнтаў на 10 насельніцтва Беларусі заўсёды заставалася праваслаўным. Потым, канечне, у пэўнай ступені праваслаўе было перахопленае пад расейскую праваслаўную царкву пасьля доўгіх гадоў барацьбы. Ва ўсялякім выпадку, ідэя самастойнай беларускай праваслаўнай царквы існавала яшчэ з часоў Эўфрасіньні Полацкай, Кірылы Тураўскага, з біскупстваў Полацкага, Смаленскага, Турава-Пінскага ды іншых. У 20 стагодзьдзі, калі народы сьвету і, у прыватнасьці, Усходняй Эўропы, стваралі свае нацыянальныя дзяржавы, разам з гэтым пачалі адраджацца і самастойныя нацыянальныя цэрквы, у тым ліку і на Беларусі ў 20-х гадах паўстала адроджаная праваслаўная аўтакефалія. Былі праведзены адпаведныя зьезды - Царкоўныя Саборы, на якіх былі зацьверджаны статуты, але, на жаль, гэты пэрыяд быў перарваны савецка-бальшавіцкай уладай. Улада пачала наступаць на ўсялякую рэлігію, у тым ліку і на Беларускую Аўтакефалію, на яе нават часьцей. Многія сьвятары былі зьнішчаныя, загінулі ў турмах і канцлягерах, на высылцы, але ня поўнасьцю - беларускія сьвятары заставаліся на Бацькаўшчыне, хай сабе і ня надта высокія гіерархі. Заставаліся вернікі, і Беларуская Аўтакефальная Царква працягвала жыць, можна сказаць, такім падпольным і вандроўным чынам, і існавала як Беларуская Вандроўная Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Потым аўтакефалія была зноў пацьверджаная ў 1942 годзе ўжо пры нямецкай акупацыі. Адбыўся Сабор, і Аўтакефалія зноў была абвешчана, царква на Беларусі зноў пачала адкрытую дзейнасьць. Калі ж надышлі бальшавіцка-савецкія войскі, частка гіерархаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы адвандравала ў Эўропу і потым у Амэрыку, Канаду, Аўстралію ды іншыя краіны, і там утварылі цэрквы, якія існуюць і дагэтуль. У Беларусі засталася частка сьвятароў, закансьпіраваных, і на ўсход і на поўдзень ад Менску засталіся і вернікі, якія працягвалі набажэнствы ў якасьці, зноў жа, вандроўнай Беларускай Аўтакефальнай Царквы. З чарговай хваляй адраджэньня ў 80-я - 90-я гады, з набыцьцём Беларусяй незалежнасьці, БАПЦ зноў выйшла з падпольля і пачала дзейнічаць у асобе нашага біскупа Пятра (Гушчы), іншых сьвятароў, у тым ліку і пакорнага слугі Вашага. У нас існуюць прыходы ў Менску, пад Менскам, на захадзе Беларусі, у Магілёве, у Гомелі, Віцебску і іншых месцах. Адно толькі, мы ня можам афішаваць гэтыя прыходы і людзей, якія там дзейнічаюць, бо ідзе перасьлед праваслаўнай аўтакефальнай царквы з боку прамаскоўскай улады на Беларусі.

**Г.:** - Скажыце, калі ласка, якая цяпер колькасьць прыходаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Беларусі? Колькі прыкладна людзей, якія сябе больш асацыююць з аўтакефаліяй, а не з афіцыйным праваслаўем?

**А.Л.:** - Мы можам назваць лічбу ў некалькі сотняў людзей, якія стала падтрымліваюць нашыя 12 прыходаў, сьвятароў - некалькі дзясяткаў, але ня ўсе зь іх сябе аўтакефалістамі пазыцыянуюць адкрыта. Афіцыйна ў нас 5 сьвятароў, а астатняя частка сьвятароў працуе неафіцыйна. Таму, што да афіцыйнага статусу БАПЦ ў Беларусі, то наша царква праводзіць набажэнствы ў паўпадпольлі альбо нават зусім у падпольлі.

Былі ў нас прыходы ў Лідзе і пас. Пагранічны Берастаўіцкага раёна. У вёсках Шчомысьліца і Сёмкаў Гарадок пад Менскам. Лідзкі прыход зачынілі, напалову збудаваную царкву забралі пад расейскую царкву. У пасёлку Пагранічны зусім зруйнавалі царкву. У Лідзе айца Васіля Мялешку давялі да таго, што неўзабаве пасьля закрыцьця прыходу ён памёр. Яго трэціравалі і не давалі весьці будоўлю царквы - паставілі вакол царквы забараняльныя для пад'езду знакі, што нельга было нават крану пад'ехаць ці машыне падвезьці цэглы ці цэменту. Ідзе вялікі гвалтоўны наезд з боку Расейскай праваслаўнай царквы, таму, што, маўляў, яна баіцца такога расколу, як на Украіне.

**Г.:** - Скажыце, з чым зьвязаная гэткая нянавісьць, гэткае непрыманьне беларускай царквы ўладамі?

**А.Л.:** - Ну, вы ведаеце, што сёньняшняя ўлада пераважна ўлада антыбеларуская, і паколькі мы як беларуская аўтакефальная царква знаходзімся ня ў лоне расейскай імпэрскай царквы, і таму ня можам падтрымлівацца і самой Расейскай праваслаўнай царквой, і нашай антыбеларускай прарасейскай уладай. Мы молімся за Беларусь, за беларусаў і за ўсіх на Беларусі, мы не супрацьпастаўляем беларусаў ані расейскаму народу, ані ўкраінскаму ці іншаму. Мы лічым, што кожная дзяржава і кожны народ можа мець сваю царкву і сваю веру, гэтаксама як і сваю мову і сваю спрадвечную гісторыю і культуру.

**Г.:** - У чым унутранае, сутнаснае адрозьненьне аўтакефальнай царквы ад расейскай? Што можа прапанаваць верніку Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, чаго ня можа прапанаваць РПЦ?

**А.Л.:** - Адрозьненьняў у кананічных адносінах няма ніякіх, у гэтым беларуская праваслаўная царква ідэнтычная расейскай праваслаўнай. Адзінае адрозьненьне ў тым, што мы молімся за Беларусь і на беларускай мове. За свой народ, які мае вялікую гісторыю і вялікую культуру.

**Г.:** А наколькі пашыраная ідэя беларускай аўтакефаліі сярод актыўных праваслаўных вернікаў, сярод "афіцыйнага" праваслаўнага духавенства?

**А.Л.:** - Прыхільнікаў ёсьць нямала, нават сярод прадстаўнікоў Расейскай праваслаўнай царквы ў Беларусі, якія гатовыя былі б перайсьці ў аўтакефалію. З мэркантыльных, сваіх практычных прычынаў пакуль яны ня хочуць пераходзіць, ня хочуць страчваць пасаду, але ідэю Беларускай Праваслаўнай Царквы яны падтрымліваюць. Ідэя вельмі папулярная сярод пэўнай часткі інтэлігенцыі, у тым ліку сярод многіх вядомых дзеячоў. Падтрымліваюць яе ня толькі гуманітарыі, але і тэхнікі, эканамісты. Падтрымліваюць таксама людзі розных сацыяльных пластоў насельніцтва. Тым ня менш, ідэя аўтакефаліі, на жаль, яшчэ не ахапіла шырока насельніцтва, бо справа Беларускай Аўтакефаліі замоўчваецца, анідзе ў СМІ пра нашу дзейнасьць не паведамляецца. Газэты, якія спрабуюць публікаваць матар'ялы пра Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, церпяць рэпрэсіі, зачыняюцца, вымушаныя плаціць штрафы. Больш за ўсё нам перашкаджаюць рэпрэсіі з боку афіцыйных дзяржаўных ворганаў - камітэтаў па справах рэлігіі, сельсаветаў, міліцыі, райвыканкамаў, пракуратуры, штрафавальных камісіяў...

**Г.:** - А якія стасункі мае Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква з вуніятамі? Паміж гэтымі цэрквамі можна правесьці шмат паралеляў: абедзьве пэўным чынам прэтэндуюць на статус нацыянальнай царквы беларусаў, абедзьве цэрквы досыць прыгнятаюцца сёньняшнім рэжымам. Пры гэтым у гістарычным кантэксьце ёсьць і пэўны канфліктны аспэкт: ці ня ёсьць вуніяты больш легітымнымі спадкаемцамі старажытнага беларускага праваслаўя? Ці ня скончылася сапраўднае беларускае праваслаўе Берасьцейскай вуніяй?

**А. Л.:** Я б не сказаў, што тут усё гэтак адназначна. Грэка-каталіцкая царква таксама зьвязлася ў Беларусі, бо пачала на лаціне, а потым на расейскай мове весьці мэтрыкі нараджэньняў і праводзіць набажэнствы. Праваслаўных кананічных тэкстаў засталося больш, чым уніяцкіх. Павінна было шмат чаго застацца і ад грэка-каталіцкай царквы, але ж вялікіх, значных помнікаў, на жаль, не захавалася, бо зьнішчаны пры ліквідацыі вуніі Восіпам Сямашкам у 1839 г. Так, канечне, яна была пашыраная, але на жаль, яна таксама ў многім, як бачым, падпала пад уплыў каталіцызму і ў тым пляне, што не служыла на роднай мове. Таму маем тут перабольшваньне беларускасьці грэка-каталіцкай царквы. Гэтаксама нельга перабольшваць беларускасьць і рэштках праваслаўнай царквы, якая вяла набажэнствы ў асноўным на царкоўнаславянскай мове. У 19 стагодзьдзі дзякуючы намаганьням беларускіх католікаў пачалося паступовае адраджэньне беларускага ў касьцёле і царкве. Католікі дабіліся спачатку казаньняў, пропаведзяў па-беларуску, а потым паступова пачалі перакладаць на беларускую мову Біблію ды іншыя рэлігійныя творы, што паспрыяла беларусізацыі касьцёлу і, у рэшце рэшт, царквы.

Я б не сказаў, што сёньня ў нас ёсьць нейкія антаганістычныя адносіны з грэка-католікамі ці каталікамі. Я б лепш прывёў прыклад, наадварот, экуменістычнага супрацоўніцтва. Мы праводзім сумесныя акцыі з грэка-католікамі, а іншым разам з рымакатолікамі ў Курапатах, на Радаўніцу, Дзяды, на Жальбінах у Ігумені - разам выступаем, асьвячаем, кажам малітвы па-беларуску.

**Г.:** - А царква, якая называе сябе "Белорусская православная церковь", да вас, канечне, не далучаецца?

**А. Л.:** - Вядома, не. Гэта назва спецыяльна ўзятая расейскай царквой, каб перахапіць, каб зьняславіць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Раней яна называлася Беларускі экзархат Расейскай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату. Гэтак зроблена і ва Ўкраіне, дзе ёсьць Украінская праваслаўная царква Кіеўскага патрыярхату і Ўкраінская праваслаўная царква Маскоўскага патрыярхату. Расейская праваслаўная царква намагаецца падмяняць паняцьці і ўзяць на сябе ролю беларускай нацыянальнай царквы, хоць нічога беларускага ў ёй амаль што няма. Нават мова іхных перакладаў рэлігійных тэкстаў на беларускую вельмі далёкая ад сапраўднай мовы - беларуска-расейска-царкоўнаславянская трасянка, якая пярэчыць духу беларускай мовы. БПЦ Маскоўскага патрыярхату творыць этнацыд, русіфікацыю, дэнацыяналізацыю беларусаў і фактычна яна расколвае беларусаў і ў беларускай царкве, не спрыяе кансалідацыі нацыі.

**Г.:** - Якой Вы бачыце сітуацыю з праваслаўем у Беларусі пасьля зрынаньня рэжыму Лукашэнкі, пасьля пазбаўленьня Беларускага экзархату РПЦ ягоных прывілеяў? Ці ня бачыце Вы небясьпекі канфліктаў, расколаў, як ва Ўкраіне, дзе цяпер маецца тры праваслаўныя царквы, якія канкуруюць паміж сабою?

**А. Л.:** - Цэрквы ва Ўкраіне якраз не канкуруюць - канкурэнцыя ідзе хіба што паміж высокімі іерархамі. Украінскі народ зацікаўлены ў іх аб'яднаньні ў адну царкву. Вядзецца падрыхтоўка да правядзеньня аб'яднаўчага Памеснага сабору. У мінулым годзе быў заключаны акт паміж трыма галінамі ўкраінскай царквы: Украінскай праваслаўнай царквой Кіеўскага патрыярхату, Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквой і Ўкраінскай грэка-каталіцкай царквой. На жаль, у мінулым годзе Памесны сабор так і не адбыўся, але на Ўкраіне ёсьць падтрымка ідэі гэтага аб'яднаньня нават на найвышэйшым узроўні, а таксама Канстанцінопальскім патрыярхатам на чале з Барталамеем І. Украінская царкоўная дэлегацыя, а таксама прэзыдэнт В.Юшчанка былі прынятыя ў Канстанцінопалі сьвяцейшым патрыярхам, прыязджала дэлегацыя патрыярхату ў Кіеў. У друку апублікавана, што ў 1648 годзе захоп кананічных тэрыторый Украіны, а таксама і Беларусі (бо мы часьцей падначальваліся Кіеўскаму патрыярхату, чым Маскоўскаму, калі глядзець у гістарычным пляне) не прызнаецца Канстанцінопальскім патрыярхатам, бо патрыярх Дыянісі зрабіў гэта тады аднаасобна, бяз згоды сьвяцейшага Сіноду.

Я думаю, што калі беларуская ўлада будзе дбаць пра сваю будучыню, яна будзе дбаць і пра веру, бо беларуская царква будзе падтрымліваць і беларускую ўладу, гэта будзе добрае ўзаемадзеяньне. Усё, канечне, залежыць перш за ўсё ад уладных структураў. Цяпер яны не зацікаўленыя ў пашырэньні беларускасьці ў веры, таму і забараняюць, абмяжоўваюць усё беларускае і замяняюць на расейскае.

*30 кастрычніка айцец Леанід адзначыў свой дзень народзінаў. Ад імя рэдакцыі газэты і вернікаў Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага віншуем айца Леаніда зь ягоным асабістым сьвятам і жадаем яму моцнага здароўя і сілы духу ў далейшым адданым служэньні беларускаму народу ў справе ягонага духоўнага жыцьця.*

*Друкуем тут верш, які даслаў нам бліжэйшы паплечнік айца Леаніда з Беларусі, царкоўны стараста Менскай суполкі Сьвятой Афрасіні Полацкай Мікола Бамбіза ( літ. псэўданім Мікола Бакас).*

## Маналёг айца Леаніда (Акаловіча)

(Прысвячэньне да Дня народзінаў)

*Мой род - старадаўні, шляхетны, ліцьвінскі.*
*Вось тут яго корані - ў роднай зямлі,*
*Парослай імхом, пустазельлем чужынскім*
*Сярод церпялівых тутэйшых расьлін.*

*Дык хопіць цярпець! Мы – не пасынкі ў Бога.*
*Мы – Божы народ пад назовам Літва.*
*Літва – гэта лёс, гэта наша дарога*
*Да лепшае долі, да харства.*

*Хто зьбіў нас зь цяжкога, вялікага шляху?*
*Хто беларусаў зь ліцьвінаў зрабіў?*
*Вялікі ім "дзякуй" – расейцам і ляхам,*
*Што навучылі свабоду любіць.*

*Мы зла не трымаем, урок - не забудзем.*
*Народ зкатаваны, ды гонар – жывы!*
*Мы верым у Божы трыюмф правасудзьдзя!*
*Мы верым у Божую славу Літвы!*

*Я ведаю: зь вераю мы пераможам.*
*Даверма Ісусу прыгнечаны дух,*
*І станем з Хрыстом супраць хэўры варожай,*
*І разам прагонім ліхую арду.*

*Дык скіньце ж нарэшце назоў нешчасьлівы,*
*І скончыцца век беларускіх нягод.*
*Пад грукат пагоні літоўскай імклівы*
*Адновіцца век твой, літоўскі народ.*

*Мы вернем сваё, адбудуем Дзяржаву,*
*Каб стала Вялікаю наша Літва.*
*І прыйдуць з паклонам Масква і Варшава*
*Прасіць прабачэньня за колішні гвалт.*

*Ліцьвінам належыць літоўская слава*
*І спадчына продкаў ліцьвінскай крыві.*
*Няма немагчымага дужым і правым,*
*Дык будзь жа ты годным нашчадкам, ліцьвін!*

*Жнівень 2012 г.*

## Абама: «Амэрыка рухаецца наперад»



6 лістапада адбыліся доўгачаканыя прэзыдэнцкія выбары ў ЗША. Дзейсны прэзыдэнт Барак Абама ў выніку жорсткай перадвыбарчай барацьбы быў пераабраны на другі чатырохгадовы тэрмін, перамогшы суперніка-рэспубліканца Міта Ромні.

Сваю першую пасьлявыбарчую прамову Абама пачаў словамі: «Амэрыка рухаецца наперад. .. Пакуль мы тут моршчымся з нагоды дробязнасьці гэтай кампаніі, людзі ў іншых краінах рызыкуюць жыцьцём, каб у іх зьявілася магчымасьць паспрачацца пра палітыку». Напэўна, гэта і пра нас – беларусаў.

## Дэпутатка-беларуска ў Бэльгіі




На нядаўніх муніцыпальных выбарах у Бэльгіі дэпутатам гарадзкой рады Антвэрпэну абралі эмігрантку зь Беларусі Галіну Мацюшыну. Адна з заснавальнікаў арганізацыі «Салідарнасьць», якая ў Бэльгіі займаецца абаронай правоў эмігрантаў з былога СССР, сп. Галіна была абраная ад партыі хрысьціянскіх дэмакратаў. Яна горны інжынэр паводле адукацыі, 18 гадоў адпрацавала ў «Беларуськаліі», была сяброўкаю Аб'яднанай грамадзянскай партыі і да гэтага часу падтрымлівае адносіны з паплечнікамі, а таксама зь іншымі лідэрамі беларускай апазыцыі, сустракалася зь імі ў Брусэлі.

# Беларусы на фэстывалі Антлянтык Антык

Нью-Ёрк – горад, дзе розныя сьвяточныя імпрэзы адбываюцца бесперапынна. Акрамя агульнагарадзкіх, свае сьвяты маюць усе пяць раёнаў (боро), а ўнутры іх свае сьвяткаваньні ладзяць нават і вуліцы. Заўсёды ў выхадныя, калі шмат езьдзіш па Нью-Ёрку, натрапіш на нейкі вулічны фестываль. Гэта музыка, песьні, распродаж тавараў і шматлікія сталы з рознымі прысмакамі, дзеля якіх і прыходзяць многія з мінакоў, каб паспрабаваць стравы розных нацыянальных кухняў. Да такіх сьвятаў рыхтуюцца загадзя, зацікаўленыя мусяць дастаць дазвол на продаж, а без усялякага дазволу могуць прапагандаваць сваю культуру.



*Зьлева направа : Надзея Лысак, Вікторыя Судакова, Ганна Лукашык*

Сваё адмысловае сьвята мае і адна з самых вядомых і вялікіх вуліцаў Брукліна – Атлянтык Авэню, якая цягнецца амаль праз увесь гэты раён. Кожны год напрыканцы верасьня ладзіцца вялікі фестываль з папулярнаю цяпер назваю Атлянтык Антык. Сёлета гэта было ў нядзелю 30 верасьня. Асабліва ажыўлена ў такі дзень у пачатковай частцы вуліцы, якая знаходзіцца блізу адміністрацыйнага цэнтру Брукліна. Як раз у гэтым мейсцы, на скрыжаваньні з вуліцаю Бонд знаходзіцца наш Беларускі грамадзка-рэлігійны цэнтр і таму на нас палягае вялікая адказнасьць. Наш будынак якраз знаходзіцца на самым ажыўленым месцы, сьвяточная плынь цячэ перад самымі дзвярыма.



Надзея Лысак, Сяржук Сарагавец, Вікторыя Судакова

Царкоўная Рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага і Бруклінскі аддзел БАЗА сумесна рыхтуюцца да сьвята, каб не горш за іншых прадставіць на ім беларускую супольнасьць у Нью-Ёрку. Звычайна праца ідзе у двух накірунках – гатуюцца стравы для продажу, каб зарабіць грошы на ўтрыманьне нашай праваслаўнай аўтакефальнай царквы, падругое, рыхтуецца культурная праграма – робіцца выставы, выстаўляюцца розныя інфармацыйныя матэрыялы пра Беларусь. Клапоцімся пра тое, каб цэлы дзень у будынку і вонкі гучала беларуская музыка, ідзе дэманстрацыя фільмаў, дзьверы будынку адчыненыя для ўсіх жадаючых. Людзі заходзяць, ім распавядаюць пра Беларусь і пра беларускую прысутнасьць у Амэрыцы, часам сярод іх трапляюцца і беларусы, якія ўпершыню даведваюцца, што ў Нью-Ёрку існуе беларускае жыцьцё і жадаюць далучыцца. Многія з мінакоў зьвяртаюць увагу на бел-чырвона-белы сьцяг на будынку і пытаюцца, чый гэта сьцяг.

Гэтым разам надвор'е было цёплым і камфортным, дык уся вуліца была запоўненая людзьмі. Каля нашых сталоў заўсёды зьбіраецца шмат пакупнікоў. Маючы побач будынак і кухню, гандлюем пераважна гарачымі стравамі. Найбольш



*Ганна Дарагакупец*

хутка разыходзяцца нашы дранікі, падабаюцца вельмі і галубцы, адзін італьянец пакаштаваў першы раз, а потым вярнуўся і закупіў усе галубцы, што засталіся, ды стаў частаваць імі іншых. Трапляюцца і такія, хто цікавіцца не толькі ежаю, але і зьвяртае ўвагу на беларускія кніжкі, сувенірныя вырабы, паштоўкі, буклеты, газэты на нашых сталах і пачынае распытваць, альбо сам рапавядае, што ведае пра Беларусь і пра нашую сучасную сытуацыю ў краіне, некаторыя выказваюць спачуваньне. Маладых хлопцаў больш прываблiваюць нашы маладыя гандляркі - прыгожыя і ветлівыя дзяўчаты.

Звычайна мы завяршаем продаж да таго, як скончыцца сьвята, бо усё раскупляюць. А потым ужо ладзім унутры будынку сьвята для нашых людзей, якія добра папрацавалі перад і ў гэты дзень. Частуемся, размаўляем, распавядаем пра новыя кантакты, якія наладзіліся пад час сьвята, згадваем пра цікавыя і часам сьмешныя эпізоды. Усе маем добры, сьвяточны настрой і задавальненьне ад зробленай працы, што дала не толькі ладны прыбытак, але і рэклямавала беларускую прысутнасьць у «сталіцы сьвету».

*Ганна Сурмач*

# Беларускі бутык на Міжнародным Фэстывалі рукадзельля ў Таронта



Выстава-продаж мастацка-дызайнэрскай кампаіі “Spirit of Belarus” адбылася на міжнародным Фэстывалі рукадзельля CreativFestival Fall-2012 ў Таронта (Канада) 12-14 кастрычніка.

Міжнародны Фэстываль рукадзельля CreativFestival у Таронта праводзіцца двойчы на год. Гэта форум рукадзельніц, найбуйнейшы ў свеце, на яго зьязджаюцца мастакі, дызайнеры, выкладчыкі, камэрсанты з усяе Амэрыкі ды Эўропы. Увосень 2012 Фэстываль адзначаў сваё 25-годзьдзе. З нагоды юбілейнага сьвяткаваньня была зладжаная выстава майстроў-дызайнэраў вышыўкі Канады (Needlework Designer Line), у якой прымалі ўдзел сябры Гільдыі канадскіх дызайнэраў вышыўкі (Needlework Designers of Canada). Сярод іх асобным буцікам выстаўлялася кампанія "Spirit of Belarus".

Заснавальніцай беларускай мастацка-дызайнерскай кампаніі "Spirit of Belarus" зьяўляецца мастачка і пісьменьніца Ірына Варабей, якая жыве ў Таронта. Ірына Варабей – вядомая ў Канадзе дызайнэрка вышывальнага мастацтва. Большасьць вышываных работ Ірыны выканана ў сучасных тэхніках, але ўсе яны заснаваныя на беларускіх вобразах і традыцыйных беларускіх арнаментах. Вышыўка – мастацтва спэцыфічнае. Асноўная маса майстрых-аматарак вышывае па набытых схемах, створаных іншымі дызайнерамі. Таму Ірына, паставіўшы за мэту прэзэнтаваць беларускую культуру для канадыйскіх ды амэрыканскіх майстрых, ня толькі робіць дысплэі са сваімі вышыванкамі, але і стварае схемы, якія можна набыць, каб вышыць такі ж узор для сябе.

Ірына Варабей зьяўляецца сябрам Канадыйскай асацыяцыі вышывальніц (Embroidery Association of Canada), а таксама сябрам Гільдыі дызайнэраў вышыўкі Канады (Needlework Designers of Canada).

Пад брэндам "Spirit of Belarus" публікуюцца ейныя вышываныя работы ў канадскім часопісе рукадзельніц “A Needle Pulling Thread”, супрацоўніцтва з якім пачалося з 2009 г., і ўжо дзесяць работ Ірыны разам з ейнымі артыкуламі-экскурсамі ў беларускую культуру апублікаваныя на старонках папулярнага ў Канадзе часопіса. Характэрна, што мэтай часопіса “ANPT” зьяўляецца прэзэнтацыя менавіта канадыйскіх дызайнэрак, і гэта азначае, што работу беларускі Ірыны Варабей ён улучае ў сваю канадыйскую супольнасьць. Пад гэтым жа брэндам і пад эгідай часопіса калекцыя вышыванак Ірыны рэгулярна выстаўляецца на Фэстывалях рукадзельля “CreativFestival”.

Спонсарам выставы была беларуская Фундацыя Крэчэўскага з Нью-Ёрку.

*Ірына Аксёнава*

# Беларус Алег Навіцкі паляцеў у космас



Касьмічная экспэдыцыя пад кіраўніцтвам беларуса палкоўніка Алега Навіцкага стартавала 23 кастрычніка з касмадрому “Байканур” на караблі "Саюз ТМА-06М" да Міжнароднай касьмічнай станцы. У экспэдыцы бяруць удзел таксама расеец Яўген Талеркін і амэрыканец Кэвін Форд. Арбітальны палёт мае прадоўжыцца больш за 4 месяцы.

Алег Навіцкі нарадзіўся ў г. Чэрвені Менскай вобл. Беларусі ў 1971 годзе, скончыў вайсковыя лётныя вучэльні ў Расеі. У жнїўні 2009 году яму была прысвоена кваліфікацыя касманаўт - выпрабавальнік.

Да гэтага часу толькі два беларусы лёталі ў космас у якасьці камандзіра касьмічнага карабля - Петр Клімук і Уладзімір Кавалёнак.

# Пад канадыйскім сьцягам

Канадыйскі роварнік Антон Варабей, беларускага паходжаньня, упершыню браў удзел у прафесійных гонках пад канадыйскім сьцягам.

Міжнародныя спаборніцтвы прафесіяналаў Pro Sprint Challenge праходзілі 6 верасьня ў Квэбэк-сіці. Права прадстаўляць Канаду на гэтых аўтарытэтных гонках, памерацца сіламі з наймацнешымі роварнікамі сьвету, дамагліся два канадыйскіх непрафесійных спартоўцы, адзін з іх - Антон Варабей.

Антон Варабей - малады антарыйскі роварнік - пераможца на папярэднім этапе Нацыянальнага Чэмпіянату Канады Sprint Challenge, што праходзіў 24 чэрвеня ў Лак-Мегантык (Lac Megantic), Квэбэку, тым самым заваяваў права выступаць пад канадыйскім сьцягам у міжнародным Pro Sprint Challenge. Sprint Challenge - спрынтэрская гонка на 1 км "туды-назад", якая праводзіцца адборачным спосабам, заездамі па 4 удзельнікі, два з каторых выходзяць ў наступны заезд.

Антось годна прадставіў Канаду ў сваіх першых міжнародных гонках: перамог у адборачных заездах, але ў чвэрць-фінале саступіў двум знакамітым спрынтэрам міжнароднага класу аўстралійцам Мэцью Госу (Matthew Goss) і Майклу Мэцьюсу (Michael Matthews).

Спаборніцтвы такога рангу трансліраваліся ў прамым этэры па Нацыянальным канадыйскім тэлебачаньні, дзе не раз падкрэсьлілі, што Антон - "from Belarus".

Антон – сын вядомай беларускай мастачкі-вышывальшчыцы з Таронта Ірыны Варабей.

# Беларус – пераможца амэрыканскага тэлешоу



Беларус Зьміцер Шолахаў выйграў 10-ты сэзон амэрыканскага тэлешоу “Праект Подыюм”, у якім спаборнічаюць дызайнэры адзеньня. Ён адолеў трохмесячны марафон, перамог 15 іншых удзельніккаў і атрымаў узнагароду $ 100.000 ад L’Oréal Paris на адкрыцьцё сваёй лініі адзеньня, разварот у часопісе Marie Claire, аўтамабіль2013 Lexus GS 350, праграмнае забесьпячэньне для мадэляваньня ад HP і Intel, а таксама магчымасьць прадаваць у сетцы Lord & Taylor.

Далейшых посьпехаў яму пажадала сама Хайдзі Клум – адна зь вядучых тэлешоу.

Зьміцер прыехаў у ЗША з Беларусі ў 18 гадоў, зараз яму 33 гады. З сабою ён меў заплечнік, трохі грошай у кішэні, а ў душы – вялікую мару, якая, здаецца, цяпер пачала ажыцьцяўляцца. Зьміцер гаворыць, што гэтую мару ён выношваў з дзяцінства: “Я з маладых гадоў хацеў займацца мадэляваньнем адзеньня, але, напачатку, стаў бальным танцорам. Аднак свае першыя накіды мадэляў я пачаў рабіць ужо недзе ў 8-10 гадоў, а ў 11 гадоў ужо маляваў касьцюмы для сябе і маіх сяброў, гэта было ў мяне ў крыві. Мая бабуля была модніцаю, а бацька мастаком. Пазьней, калі зьявіўся шанец паехаць у ЗША, я стараўся скарыстаць яго, бо ведаў, што тут ёсьць добрыя школы дызайнэраў. У мяне атрымалася тут скончыць школу Parsons. А пакуль вучыўся, я працаваў з Domenico Vacca, Jones Group и Anne Klein. Так што, увогуле, я ўжо сасьпеў для свайго сёлетняга посьпеху".

# “Раскрылі крылы музы” ў Старых Дарогах



*Да гадавіны з дня сьмерці Анатоля Белага 16 лістапада 2011 прапануем дасланыя ў рэдакцыю артыкулы пра ягоную плённую грамадзкую дзейнасьць, якая пакінула адметны сьлед у беларускай культуры.*

Галоўнай жыцьцёвай мэтай амаль год назад адыйшоўшага ад нас у Вечнасьць знакамітага беларускага калекцыянэра, кіраўніка культурна-асьветнага клюба “Спадчына” Анатоля Яўхімавіча Белага было адраджэньне гістрычнай памяці беларускага народа праз ушанаваньне тытанаў і герояў Беларусі мастацкімі сродкамі жывапісу, графікі і скульптуры. Дзеля таго каб гэтыя сродкі спрацоўвалі найбольш эфэктыўна, Анатолем Яўхімавічам была задумана нечуваная для сучаснай Рэспублікі Беларусь канцэпцыя прыватнага беларускага музэя. Сапраўды беларускага, як па духу, так і па зьмесьце. Гэты наватарскі падыход, да рэалізацыі якога столькі гадоў ішоў Белы і яго паплечнікі, выклікаў шмат пярэчаньняў прыхільнікаў “чыстага мастацтва”, а таксама тых, для каго дэфініцыя “беларускае мастацтва” ўяўляецца надзвычай цьмянай і ненавуковай. Анатоль Яўхімавіч усё жыцьцё змагаўся з гэткім недальнабачным падыходам да нацыянальнага ў выяўленчым мастацтве, даводзіў ўсім сумняваючымся - мастатацтвазнаўцам і зрусіфікаваным “майстрам” пэндзля, што беларускім мастаком быць пачэсна, што для гэтага патрэбна тэматычна акунуцца ў беларускае жыцьцё ды гісторыю, глядзець на рэчаіснасьць вачыма беларуса. Ягоны музэй, як частка культурнай спадчыны нашага народа, стаў своеасаблівым палігонам, на якім выпрабоўваліся культуралягічныя падыходы і прынцыпы музэіфікацыі рознабаковай мастацкай спадчыны. А таксама прынцыпы найбольш эфэктыўнага прадстаўленьня яе сучасным прыхільнікам мастацтва – моладзі, айчыннай інтэлігенцыі, жыхарам горада, а таксама тым, хто яшчэ не спрычыніўся да фэерычнага сьвету выяўленчай творчасьці.

Адлюстравань жыцьцё сапраўднага нацыянальнага музэя, яго набыткі і падыходы да экспанаваньня лепшых твораў беларускага мастацтва – гэтую мэту паставіў Анатоль Белы ня толькі ў дачыненьні да музэя, але і, не ў апошнюю чаргу, інфармацыйных выданьняў – праспэктаў і каталёгаў. Так, А. Белы добра разумеў, што без інфармацыйнай падтрымкі будзе цяжка давесьці прыхільнікам беларускага мастацтва ідэю музэя, гісторыю яго рознабаковых экспазыцый і артэфактаў. І першым інфармацыйным выданьнем такога кшталту можна лічыць даведнік “Старадарожскі нацыянальна-мастацкі музэй Анатоля Белага”, які паслужыў арганізатарам экспазыцый ў Старых Дарогах самым добрым чынам: мінімалістычнымі выяўленчымі і інфармацыйнымі сродкамі ў ім распавядалася пра рукатворны мастацкі цуд, рэалізаваны сям’ёй Белых у гэтым горадзе. Але фотаздымкі экспазіцый, помнікаў знакамітым беларусам на сядзібе музэя, рэпрадукцыі мастацкіх твораў і азнаямляльны тэкст усё ж ня поўнасцю адлюстроўвалі канцэпцыю музэя і ягоных калекцый. Таму ў Анатоля Яўхімавіча зьявілася ідэя пра больш грунтоўны каталёг, які быў бы прысьвечаны ягонаму наватарскаму праекту. Ты больш што сам музэй, яго калекцыі, мастацкае ўвасабленьне сядзібы пастаянна папаўняліся новымі набыткамі. Таму лягічным было стварэньне вялікага “каталёга калецый прыватнага музэя А. Я. Белага ў горадзе Старыя Дарогі” з лірычнай назвай “Раскрылі крылы музы” (выдавецтва “Рыфтур”, г. Менск, 2011 г. ).

Са скрухай трэба адзначыць, што праца над каталёгам “Раскрылі крылы музы” трагічна супала з кульмінацыяй цяжкой хваробы Анатоля Яўхімавіча, якую ён пераносіў стаічна, безупынна працаваў над праектам, чым натхняў ўсіх спэцыялістаў выдавецтва працаваць з падвойнай энэргіяй. Вынікам гэтых намаганьняў стаў грунтоўны каталёг, які прэтэндуе на адзнаку выдатнай зьявы ў айчынным мастацтве ўвогуле. Зразумець тое, у чым прыцягальнасьць асобы Анатоля Белага, сутнасьць ягонага чыну на карысьць беларушчыны ва ўсіх праявах, а таксама вытокі яго змагарскага характару можна будзе з тэкстаў дачкі Святланы Белай і самога Анатоля Яўхімавіча, якімі расчынаецца літаратурная частка выдання.

А вось першае важнае візуальнае ўражаньне ад каталёга – цудоўная калекцыя медальернага мастацтва, якая сабраная А. Белым і захоўваецца ў Старых Дарогах. Гэтым зборам вельмі ганарыўся Анатоль Яўхімавіч, таму з такой любоўю і натхненьнем ён адлюстраваны ў першым раздзеле каталёгу. Цікава, што распачынаецца яна рубрыкай “Уладары старажытнай Беларусі”, у якой прадстаўлены плакеткі з выявамі беларускіх вялікіх князёў аўтартства мастака Міколы Несьцярэўскага. Гэтая акалічнасьць трохі засмуціла некаторых чытачоў: пры чым тут плакеткі да медалёў. Але справа ў тым, што гэты від дробнай пластыкі якраз і адносіцца да медальёрнага мастацтва. Так што атрымліваецца ў медальернай калекцыі А. Белага ёсць яшчэ больш рэдкі для калекцыянэраў падраздзел - “плакеткі”...

Што ж тычыцца непасрэдна медалёў, то іх выявы, каталёгавы вопіс прадстаўлены пад іншымі рубрыкамі. Тут і “Медальерная Скарыніяна”, “Нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі”, “Удзельнікі вызваленчага руху на Беларусі”, “Дзеячы беларускага нацыянальнага Адраджэньня”, “Песьняры Беларусі: Якуб Колас і Янка Купала” і шмат іншага. Чытачоў прыцягне і выява каранацыйнага медаля вялікага князя Літоўскага Аўгуста III, якая была выканана да падзеі невядомым мастаком ў XVIII стагодзьдзі. Цудоўны прыклад айчыннага медальернага мастацтва! Нездарма гэты твор упрыгожвае вокладку каталёга.

Знайшлося месца ў каталёгу медалям і плакеткам, якія адлюстроўваюць выявы самых актыўных сяброў культурна-асветнага клюба “Спадчына”, а таксама медалёў, якімі па рашэньню Камітэта па ўшанаваньню (старшыня А. Белы) адзначаліся самыя выбітная дзеячы беларускага нацыянальнага руху канца XX і пачатку XXI ст. У каталёгу ёсьць і ўнікальныя старонкі з выдатнымі творамі, якія адлюстроўваюць гісторыю і цяперашні час старажытнага герба ВКЛ “Пагоні”, а таксама пячаткі гарадоў Беларусі, якія, у свой час, былі адораныя Магдэбурскім правам, і шмат іншых цікавых твораў беларускіх майстроў медальернай справы: Уладзіміра Мелехава, Алеся Зіменкі, Мікалая Байрачнага...

Наступным па значнасьці і аб’ёму мастацтвазнаўчай інфармацыі трэба вылучыць раздзел “Выяўленчае мастацтва. Жывапіс. Графіка. Скульптура”. Сапраўды, са старонак каталёга можна бачыць творы шматлікіх майстроў выяўленчага мастацтва, якія пакінулі свой творчы скарб Музэю выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах. Тут ёсьць рэпрадукцыі палотнаў Леаніда Шчамялёва, дынастыі мастакоў Ціхановічаў, знакамітых творцаў Барыса Заборава, Аляксандра Кішчанкі, Уладзіміра Сулкоўскага, Сямёна Геруса, Васіля Шаранговіча, Георгія Папалаўскага, Арлена Кашкурэвіча, Уладзіміра Басалыгі, Анатоля Крывенкі, які зрабіў для музэя сямейную галерэю Белых і шмат іншых палотнаў беларускіх мастакоў-сучасьнікаў.

У каталёгу прадстаўлены мастацкія творы беларускіх аўтараў, якія маглі б упрыгожыць дзяржаўны музэй любога ўзроўню. Тут ёсьць палотны і дываны легендарнага мастака-вандроўніка Язэпа Драздовіча, графічныя працы мастакоў-эмігрантаў Віктара Жаўнеровіча, Уладзіміра Шыманца і Івонкі Сурвіллы. Творчасьць прадстаўнікоў заходнебеларускай мастацкай школы прадстаўлена палотнамі Пётры Сергіевіча. Своеасаблівымі і вельмі каштоўнымі рарытэтамі зьяўляюцца жывапісныя творы нашых знакамітых артыстаў і літаратараў. Маю на ўвазе адлюстраваныя ў каталёгу рэдкія палотны першага Народнага артыста Беларусі Уладзіслава Галубка і Народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава. Дарэчы, у музэі А. Белага створана асобная экспазыцыя, прысьвечаная знакамітаму пісьменьніку. Прадстаўленыя на ёй мастацкія творы Быкава з’яўляюцца пераканаўчай ілюстрацыяй геніяльнай універсальнасці вялікага Пісьменьніка.

Пасля азнаямленьня з новым мастацкім выданьнем, якіх ня так шмат зараз выдаецца ў Беларусі, можна задацца пытаннем: чым зьверне на сябе ўвагу беларусаў каталёг музэя Анатоля Белага? Перш за ўсё тым, што само выданьне – твор друкарскага мастацтва, які можна гартаць і атрымліваць эстэтычную асалоду, а потым самому імкнуцца наведаць музей і ўжывую пабачыць тое, пра што ідзе размова.

Каталёг не пакіне чытачоў абыякавымі да лёсу беларускага мастацтва, надасьць новы імпульс цікаўнасьці мастакам, мастацтвазнаўцам і проста аматарам жывапісу да мінуўшчыны і сучаснасьці беларускага выяўленчага мастацтва разнастайных жанраў.

Убачыць каталёг “Раскрылі крылы музы” можна на Інтэрнэтнай старонцы клюба Спадчына: www.Spadchyna.net, у галоўных бібліятэках Беларусі, а таксама ў Цэнтры беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе (Center for Belarusian Studies at Southwestern College), у Беларусікім цэнтры “Полацак” у Стронгсвілі каля Кліўлянду, у Кліўляндзкай бібліятэцы, і вельмі хутка ў Нью-Ёрскай бібліятэцы.

*Анатоль Мяльгуй*

# Глядзеў на рэчаіснасьць беларускімі вачыма



*-Люблю Беларусь!*
*-То узаемна!*

Ад прапрадзеда Васіля нашай сямейнай спадчыны пачатак. Непахісны змагар за волю і праўду, удзельнік паўстання 1831года, ён ледзь не паплаціўся жыцьцём за беларускую ідэю, але быў памілаваны, пазбаўлены дваранства і сасланы на Старадарожчыну. Высылка не зьмяніла ягонага характару, да канца жыцьця ён працягваў марыць пра вольную Бацькаўшчыну. Незразумелы да канца мясцовымі беларусамі, прапрадзед Васіль быў Белым для іх.

Ад прапрадзеда Васіля Белага і атрымаў мой тата, Анатоль Белы, свой моцны характар, любоў да Беларусі, непахіснасьць ды пару старажытных манетаў з выявай Пагоні. На гэтыя манеты набыў ён у сярэдзіне 70-х гадоў некалькі мастацкіх твораў для сваей будучай калекцыі. І першым быў партрэт майго дзеда Яўхіма, нашчадка славутага Васіля.

Дзякуючы свайму дару натхняць людзей на стварэньне новага тата разам з сябрамі - мастакамі пачаў адраджаць нацыянальную тэматыку ў беларускім мастацтве. Гэты талент дапамог яму ў пачатку 80-х гадоў зрабіць амаль неверагоднае: не належачы ні да ніякіх партыйных арганізацыяў, ен змог атрымаць для экспазіцыі сваёй мастацкай калекцыі некалькі пакойчыкаў у раённым домакіраўніцтве. Гэта і быў пачатак клюба “Спадчына” і прыватнага мастацкага музэя Анатоля Белага ў Старых Дарогах.

Лёс музэя, як і ўсяго новага, прагрэсіўнага, зробленага не па ўказцы зьверху, не за дзяржаўныя, а свае, сямейныя грошы, быў загадзя асуджаны на няўдачу, каб не бацькоўская вера, любоў да беларускай культуры, падтрымка сям'і, і перш за ўсе ягонай жонкі, Алы Мікалаеўны, сяброў на Бацькаўшчыне і за яе межамі. Нават у самыя цяжкія часы, калі партыйцы забралі памяшканьне клюба ”Спадчына”, калі ўзмацніліся напады на беларускую культуру і яе дзеячоў, тата працягваў марыць пра музэй. І ягоная мара спраўдзілася: на сядзібе сваіх бацькоў ён пабудаваў новы будынак і зрабіў там музей. Сваім асабістым прыкладам паказаў узор служэньня Бацькаўшыне, народу, культуры. Далёкі ад дробязных страсьцей, ад марнай сумятні, тата адраджаў у беларускім мастацтве нанава наша мінулае.

У татавым музэі ў Старых Дарогах каля двух дзясяткаў тэматычных выставаў: “Любіць Ра-дзіму - шанаваць родную мову”, “Кастусь Каліноўскі”, “Змагары Беларускага Адраджэньня” і шмат іншых. Адной з найбольш значных зьяўляецца калекцыя, прысьвечаная беларусам замежжа. Гэта адзіная ў сьвеце калекцыя партрэтаў беларускіх эмігрантаў, прадстаўленая у музэі. З прыгожых палотнаў, намаляваных мастаком Анатолем Крывенкам, паўстаюць постаці змагароў за родную Беларусь і яе незалежнасьць. Вось толькі некаторыя імёны беларусаў Амерыкі, алейныя і графічныя партрэты якіх прадстаўлены ў экспазыцыі музэя Анатоля Белага ў Старых Дарогах: Антон Шукелойц, Мацей Рэпкаў-Смаршчок (Анатоль Бярозка), Анатоль Лук’янчык, Янка Запруднік, Яўхім Кіпель, Вітаўт Кіпель, Міхась Сенька, Пятро Звонны, Вольга Лукашэвіч, Таццяна Кананчук, Сяргей Карніловіч, Янка Раковіч, Янка Ханенка, Мікола Куліковіч, Мікола Латушкін, Алег Махнюк, Леў Высоцкі, Людміла Махнюк, Кастусь Вайцяхоўскі, Марыя Дземковіч, Аўген Калубовіч, Масей Сяднёў, Кастусь Мерляк, Мікола Шчорс, Барыс Кіт, Расьціслаў Завістовіч , Алесь Салавей, Янка Юхнавец, Міхась Кавыль , Міхась Каленік, Мікола Равенскі, Міхась Бахар, Віталі Цярпіцкі, Янка Станкевіч, Кастусь Акула, Уладзімір Пляяса, Рыгор Крушына, Юрка Віцьбіч, Вітаўт Тумаш, Уладзімір Клішэвіч, Янка Золак, Натальля Арсеньнева, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Данчык, Яніна Каханоўская, Мікола Куліковіч. Таксама ў музэі прадстаўлены некалькі асобных мастацкіх стэндаў, прысьвечаных Натальлі Арсеньневай, Барысу Кіту, беларускай дыяспары.

Пра Музэй Анатоля Белага ў Старых Дарогах надрукаваны мноства самых розных артыкулаў: ад раённых газэт да энцыкляпэдый і замежнага друку. Артыкул Анатоля Мяльгуя, які друкуецца ніжэй, - гэта толькі маленькае знаёмства беларусаў Замежжа з той вялікай справай, якую зрабіў Анатоль Белы і яго Музэй для беларускай нацыянальнай культуры. Я веру, што пачатак, пакладзены маім татам, будзе мець працяг.

Жыве Беларусь!

*Сьвятлана Белая*

# Вестка ад беларусаў з Філядэльфіі




Сонечны восеньскі дзень. На алеі сьцягаў у горадзе Філядельфія расьцягнула свае плякаты невялічкая групка філядэльфійскіх беларусаў. Ахвочы да размоваў амэрыканец, спыніўшыся, пытаецца: «Што здарылася?» І вось мы тлумачым, што роўна 8 гадоў таму, ў 2004 годзе, сучасны прэзыдэнт нашай краіны - Беларусі правеў рэфрэндум, на якім ён прапанаваў прыняць адзін з артыкулаў Канстытуцыі ў новай рэдакцыі, дзе гаворыцца пра тое, што адна і тая ж асоба ня можа быць прэзыдэнтам больш за два тэрміны. Галоўнае пытаньне рэфэрэндуму заключалася ў тым, каб гэты тэрмін не абмяжоўваўся. Улады здолелі так арганізаваць рэфэрэндум, што быццам бы большая частка насельніцтва прагаласавала за гэтую зьмену, якая была патрэбная толькі дыктатару. Ён атрымаў магчымасьць неабмежаваную колькасць разоў прымаць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах.

У той час апазыцыйныя палітычныя партыі і грамадзкія арганізацыі пратэставалі супроць гэтага рэфэрэндуму, даводзілі, што гэта ўсё было незаконна, што прыняцце такой прапановы ў выніку прывядзе да станаўленьня культу асобы, да згортваньня дэмакратыі і такім чынам парушэння правоў і свабоды грамадзян.

І вось Аляксандр Лукашэнка ўжо 18 гадоў на пасадзе. А людзі? А не зразумела, што людзі. І хочуць, і трываюць. Маўчаць. Змагаюцца за лепшае. Змагаюцца за лепшае, як могуць і там, і тут.

Мы тут. Сёньня тут. З плякатамі і лёзунгамі «Не - дыктатуры!», «Не той прэзыдэнт - ня наш сьцяг!», «Люблю Радзіму, не люблю ўрад». Падрымліваем нашых. Падрымліваем Беларусь. Галоўнае ж, не маўчаць! А людзі спыняюцца, пытаюцца: Што? Хто? Дзе? І мы тлумачым, тлумачым. Шмат хто чытаў і чуў пра сытуацыю на нашай Бацькаўшчыне. І імя дыктатара ведаюць. Шчыра жадаюць сіл і посьпеху нашаму народу…Жыве Беларусь!

*Алена Літоўка, Святлана Шырвель*

# Каляндар памятных датаў на лістапад 2012 году

**1 лістапада** - 100 гадоў таму, у 1912 годзе, нарадзіўся Янка Золак (Антон Даніловіч), паэт, грамадзкі дзеяч ў Нямеччыне і ЗША

**2 лістапада** – 20 гадоў таму, у 1992 годзе, адбыўся Установчы сход Згуртаваньня беларускай шляхты

**2 лістапада** – Дзяды, Дзень памінаньня памерлых

**3 лістапада** - 85 гадоў таму, у 1927 годзе, нарадзіўся Міхась Раецкі, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі

**4 лістапада** - 130 гадоў таму, у 1882 годзе, нарадзіўся Якуб Колас, народны пісьменьнік Беларусі

**1 лістапада** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, на Салавецкіх астравах расстраляны Павал Валошын і Флягонт Валынец, дзеячы заходнебеларускага нацыянальнага руху

**2 лістапада** - 125 гадоў таму, у 1887 годзе, нарадзіўся Цішка Гартны (Зьміцер Жылуновіч), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, дзяржаўны дзеяч БССР, пісьменьнік

**5 лістапада** - 20 гадоў таму, у 1992 годзе, памёр Васіль Хомчанка, пісьменьнік

**6 лістапада** – 105 гадоў таму, у 1907 годзе, нарадзіўся Міхась Вітушка, генэрал, адзін з лідэраў Беларускай незалежніцкай партыі, кіраўнік беларускага супраціву ў 1940-50 гадох

**3 лістапада** – 15 гадоў таму, у 1997 годзе, памёр Сьвятаслаў Коўш, рэлігійны дзеяч, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**4 лістапада** – 150 гадоў таму, у 1862 годзе, памёр Віктар Каліноўскі, гісторык, адзін ідэёлягаў паўстаньня 1863-64 г.г.

**7 лістапада** – 125 гадоў таму, у 1887 годзе, нарадзіўся Радаслаў Астроўскі, грамадзка-палітычны дзеяч, педагог, прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША

**10 лістапада** – Сусьветны дзень моладзі

**13 лістапада** - 70 гадоў таму, у 1942 годзе, памёр Уладзіслаў Талочка, рэлігійны і культурна-асьветны дзеяч, гісторык

**14 лістапада** – 200 гадоў таму, у 1812 годзе, нарадзіўся Паўлюк Багрым, паэт

**15 лістапада** – 25 гадоў таму, у 1987 годзе, памёр Рыгор Зыбайла, палітычны і вайсковы дзеяч, афіцэр БКА, вязень ГУЛАГу

**16 лістапада** – Дзень Маці Божай Вострабрамскай

**16 лістапада** – 30 гадоў таму, у 1982 годзе, памёр Андрэй Макаёнак, драматург

**18 лістапада** – 110 гадоў таму, у 1902 годзе, нарадзіўся Міхась Машара, пісьменьнік, удзельнік заходнебеларускага нацыянальнага руху

**21 лістапада** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, у Чэбаксарах расстраляны Павал Каравайчык, культурны дзеяч, пісьменьнік

**26 лістапада** – 175 гадоў таму, у 1837 годзе, нарадзіўся Міхаіл Андрыёлі, мастак, удзельнік паўстаньня 1863-64 гг.

## Сьв. пам. Васіль Валюкевіч (1 жніўня 1934 – 3 верасьня 2012)



На пачатку верасьня адыйшоў у лепшы сьвет сп. Васіль Валюкевіч з Кліўлянда. Ён ад самага пачатку быў актыўным парафіянінам беларускай царквы Жыровіцкай Іконы Божай Маці і Беларуска-амэрыканскага цэнтру “Полацак”.

Нарадзіўся сп. Васіль у вёсцы Залесьсе каля Жыровічаў. У 1944 годзе разам з бацькамі выехаў у Нямеччыну, жыў зь сям’ёю ў лягерах ДП Остэргофэн і Розэнгайм. Потым, у 1951 годзе сям’я пераехала ў Амэрыку. Працаваў цягам 30 гадоў на прадпрыемстве Форда ў Кліўляндзе. Быў жанаты на Кацярыне Мельяновіч, зь якою мелі траіх дзяцей, і ён дачакаўся дваіх унукаў.

Апошнія 60 гадоў у Кліўляндзе без сп. Васіля не абыходзілася амаль ніводнае беларускае мерапрыемства.

Сьветлая памяць пра Васіля застанецца ў нашых сэрцах.

Ад імя Парафіі і сяброў “Полацака”

*Сяргей Раманюк*

## Крысьціна Шацікава – яшчэ адна ахвяра



21 верасьня ў магілёўскім госьпісе памерла вядомая грамадзкая актывістка Крысьціна Шацікава. Апошнім часам яна цяжка хварэла, у яе было анкалягічнае захворваньне. Ёй было ўсяго 37 гадоў.

Крысьціна незадоўга да сьмерці распавяла сваю гісторыю хваробы, якая праз недагляд лекараў дайшла да крытычнай стадыі. Вядомую апазыцыянерку дактары не сталі лячыць: “30 верасьня 2011 году я даведалася... І то, мяне знаёмы адвёз да сваёй знаёмай лекаркі, таму што мае лекары мне пастаянна прапісвалі таблетачкі ад кашлю. Я выклікала лекара, ён прыйшоў да мяне дахаты, нахаміў мне, сказаў, што калі мне бальнічны ліст не патрэбны, то і ў паліклініку мне ня трэба. А калі б мяне накіравалі ў паліклініку і зрабілі ў той момант флюараграфію, магчыма, усё б склалася па-іншаму...”

У Крысьціны Шацікавай засталіся двое дзяцей — хлопчыкі Нікіта і Ягор,16-ці і 14-ці гадоў — і пажылыя бацькі.


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass’n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая - адказная за кампутарную вёрстку
Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***
**Грашовыя чэкі выпісваць на імя :**
***BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.
**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**
*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*